БЭРЛІН. (В.Т.Б.). За месяц кастрычнік падводные лодкі цэнтральных дзержаў затапілі 674.000 тонн. Ад пачатку падводнай вайны затоплено гэтак 7.649.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). На заходнім узбярэжжы Англіі нашы падводные лодкі іэноў затапілі 12.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Паўночным моры: тры параходы і адзін парусьнік.

БЭРЛІН. (В.Т.В). Новые ўдачы падводных лодах у Сяродземным моры: 8 параходаў і 2 парусьнікі разам ёмкасьцю 32.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ў Паўночным Ледавітым акіане іэноў затапілі 5 параходаў ёмкасьцю разам 14.000 тонн.

# АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.